**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Са святам Нараджэння Хрыстова!

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

1 (561) 6 студзеня 2011 года.

Кошт свабодны.






Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Ðàáîòû – íåïà÷àòû êðàé

■ **Станіслаў Раманчук**

**Пры даволі высокім узроўні прамысловай вытворчасці на Глыбоччыне аб'екты сацыяльнай сферы нават у райцэнтры не адпавядалі сучасным патрабаванням.**

Аднак зараз з атрыманнем горадам права правядзення ў 2012 годзе Дня беларускага пісьменства з'явіўся добры шанц выправіць гэту дыспрапорцыю. На правядзенне такога значнага мерапрыемства нацыянальнага маштабу патрабуюцца аграмістыя сродкі, а часу не так многа. Тым не менш яшчэ летась пачалі тут прыводзіць у парадак прыбярэжную тэрыторыю возера Кагальнае, дзе будзе ўзведзены амфітэатр. Па плане мясцовых улад найперш набудуць прыстойны выгляд вуліцы і плошчы, дзе пройдуць важнейшыя мерапрыемствы свята духоўнасці. Добра, што да Дзён пісьменства збіраюцца нарэшце стварыць сядзібу-музей у Празароках, на радзіме стваральніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага. Ёсць намер ушанаваць памяць вядомага святара Ёзаса Булькі ў Мосары, дзе таксама з'явіцца музейная экспазіцыя. Зараз павінна вызначыцца сума фінансавых сродкаў на маштабныя работы. Дарэчы, у праграме падрыхтоўкі да свята ёсць пункты аб увекавечанні хоць бы ў мемарыяльных знаках заснавальнікаў горада – Корсака з Зяновічам, і нават рэстаўрацыя адной з трох захаваўшыхся ў Беларусі калоны ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 года.

# 1 ñòóäçåíÿ ì³í³ìàëüíàÿ çàðïëàòà ¢ Áåëàðóñ³ âûðàñëà íà 15%

■ **Марына Носава, БелаПАН**

**1 студзеня 2011 года мінімальная заработная плата (МЗП) у Беларусі павялічылася на 15% і склала 460 тысяч рублёў. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў ад 20 снежня 2010 года № 1844.**

Пастанова таксама вызначае пагадзінную мінімальную зарплату ў памеры 2.710 рублёў.

Дакумент прыняты ў адпаведнасці з законам "Аб устанаўленні і парадку павышэння памеру мінімальнай заработнай платы" ад 17 ліпеня 2002 года.

Апошнім разам МЗП павялічвалася 1 лістапада 2010 года — да 400 тысяч рублёў, пагадзінная мінімальная заработная плата — да 2.360.

"Павелічэнне МЗП спрыяе ўзмацненню сацыяльнай абароненасці катэгорый работнікаў, якія атрымліваюць нізкую аплату, усіх арганізацый галін эканомікі незалежна ад формы ўласнасці, — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы ўрада. — МЗП з'яўляецца дзяржаўным мінімальным сацыяльным стандартам у сферы аплаты працы, які забяспечвае сацабарону работнікаў у сферы працоўных адносін".

# 1 ñòóäçåíÿ Ïîëüø÷à àäìÿíÿå êîíñóëüñê³ çáîð çà íàöûÿíàëüíóþ â³çó äëÿ ãðàìàäçÿí Áåëàðóñ³

**1 студзеня 2011 года Польшча адмяняе консульскі збор за нацыянальную візу для грамадзян Беларусі.**

Як заявіў 29 снежня 2010 года міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі, "гэты захад дэманструе салідарнасць з беларускім народам, які 19 снежня даслаў моцны сігнал усім дэмакратычным сілам пра неабходнасць дапамогі".

У сваю чаргу прэс-сакратар польскага МЗС Марцін Басацкі падкрэсліў: "Мы хочам дапамагчы нашым суседзям ва ўмацаванні еўрапейскай самаідэнтыфікацыі праз кантакты з палякамі і іншымі грамадзянамі Еўрасаюза".

У польскім МЗС адзначылі, што кошт нацыянальнай візы ў Польшчу для беларусаў складаў 20 еўра. З пачатку 2010 года ў трох консульскіх аддзяленнях Польшчы (Брэст, Гродна, Мінск) беларусам было выдадзена 172 тыс. 486 віз. "У большасці сваёй шматразовыя нацыянальныя візы выдадзены звычайным беларусам, а не прадстаўнікам улад", — падкрэсліваецца ў паведамленні.

Варта адзначыць, што нацыянальныя візы выдаюцца толькі для працяглага знаходжання на тэрыторыі Польшчы. Шэнгенскія візы коштам 60 еўра выдаюцца польскімі консульствамі для кароткачасовага знаходжання ў Польшчы і іншых краінах Шэнгенскага пагаднення.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

# Á³ñòðî ëÿ âîçåðà

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Не сакрэт, што прыдарожны сэрвіс у Беларусі развіты пакуль слаба, і толькі апошнім часам у гэтай сферы пачаліся зрухі да лепшага.**

Не стаў выключэннем і Мёрскі раён, дзе напрыканцы мінулага года ў вёсцы Пераброддзе адкрылася прыдарожнае міні- кафэ "Прыазёрнае" на 36 месц. Яго размясцілі ва ўтульнай зале, якая па стылі нагадвае вясковую карчму, а ў асартыменце страў пераважаюць лепшыя беларускія прысмакі. Кафэ размешчана ў маляўнічай мясцовасці, дзе летам шмат адпачываючых на возеры, а зімой – рыбаловаў. Для іх на ўра разыходзяцца пельмені з гарачай рыбацкай юшкай, а для вадзіцеляў-дальнабойшчыкаў увялі зніжкі. У гэтым кафэ частымі гасцямі сталі таксама мясцовыя школьнікі і моладзь. Працуе "Прыазёрнае" па прынцыпе хуткага харчавання, сюды дастаўляюцца і стравы высокай ступені гатоўнасці ў замарожаным выглядзе. Іх застаецца толькі разагрэць для эканоміі часу наведвальнікаў. У бліжэйшы час у раёне адкрыюцца яшчэ два такія прыдарожныя аб'екты сэрвісу, адно з іх прыватнае. У суседнім Шаркоўшчынскім раёне адкрылася падобнае кафэ ў вёсцы Буеўшчына, дзе будзе сёлета пабудаваны гасцявы домік для адпачынку кіроўцаў фур.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Íà ¢çðî¢í³ àáëàñíûõ êë³í³ê

■ **Кастусь Александровіч**

На працягу некалькіх гадоў на базе Пастаўскага раёна адпрацоўваецца мадэль дзейнасці ўстаноў аховы здароўя на прынцыпах самадастатковасці. На сучаснае аснашчэнне бальніц і на набыццё новага медабсталявання тут з розных крыніц фінансавання патрацілі больш за 2 мільярды рублёў. Перад наваголнімі святамі мясцовая райбальніца папоўнілася навейшым электронным комплексам ультрагукавой дыягностыкі коштам 135 мільёнаў рублёў з доплерам і шэрагам прыстаў да яго. Цяпер у складаных сітуацыях для хворых адпала неабходнасць дабірацца ў Віцебск пры ўскладненнях хвароб сэрца і іншых важнейшых чалавечых органаў. Дарэчы, гэта не першы такі апарат з камп'ютарнай апрацоўкай дадзеных у лячэбным прымяненні. Лабараторыя райпаліклінікі зараз таксама добра аснашчана, поўнасцю аўтаматызавана і камп'ютарызавана, як і аналагічныя ў буйных гарадах. Раней тут адкрылі адно з першых у Беларусі раённых аддзяленняў гемадыялізу, пачалі праводзіць лапараскапічныя аперацыі. У планах пастаўскіх медыкаў укараніць яшчэ лазералячэнне і ультрафіялетавае апрамяненне крыві, адкрыццё міжраённага эндаскапічнага аддзялення.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

| | чацвер 06.01.11 | | | | пятн. 07.01.11 | | | | сб. 08.01.11 | | | | нядз. 09.01.11 | | | | пн.10.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | -6 | -12 | -11 | -8 | -3 | -4 | -4 | 0 | +2 | 0 | -1 | +1 | +2 | 0 | -1 | +2 | +2 | -2 | -1 |
| Ціск, мм | 751 | 751 | 750 | 750 | 748 | 747 | 746 | 746 | 746 | 747 | 747 | 748 | 747 | 745 | 745 | 748 | 749 | 749 | 748 |
| Вільготнасць, % | 90 | 82 | 80 | 87 | 89 | 89 | 90 | 94 | 99 | 98 | 99 | 96 | 98 | 96 | 97 | 97 | 99 | 96 | 94 |
| Вецер м/сек | Ю-З 4 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 8 | Ю 9 | Ю 10 | Ю 10 | Ю 9 | Ю-З 5 | Ю-З 4 | Ю 5 | Ю 5 | Ю 6 | Ю 6 | Ю 5 | Ю-З 2 | Ю-З 2 | Ю 2 | Ю 4 |
| | | 08:33 | 15:57 | | | 08:33 | 15:59 | | | 08:32 | 16:00 | | | 08:31 | 16:02 | | | 08:31 | 16:03 |
| | | 09:19 | 18:40 | | | 09:35 | 19:53 | | | 09:48 | 21:05 | | | 10:00 | 22:16 | | | 10:12 | 23:26 |

# Äçåíü çà äí¸ì

**По рашэнні беларускага ўрада, які падаў у адстаўку, мінімальная зарплата ў краіне ўстаноўлена з 1 студзеня 2011 года ў памеры 460 тыс. рублёў. Беларусь першая ратыфікавала пакет з 18 дакументаў па стварэнні Адзінай эканамічнай прасторы. На тэрыторыі трох краін цяпер капіталы, паслугі, тавары і рабочая сіла будуць перамяшчацца свабодна, айчынная і казахская эканомікі яшчэ мацней прывяжуцца да больш моцнай расійскай. На руках у беларусаў з'явіліся абноўленыя грашовыя банкноты наміналам 50 і 50 тысяч рублёў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Сапраўдным калядным падарункам усяму свету стала ратыфікацыя ў сенаце ЗША дагавора з Расіяй аб скарачэнні стратэгічных ядзерных наступальных узбраенняў.

**Расія.** Канцэрн "Газпрам", нягледзячы на падпісанне Беларуссю дакументаў па АЭП, не пайшоў на зніжэнне цаны газу для беларусаў у 2011 годзе. Яна складзе 230 долараў.

**Польшча.** ЕС, маючы ўплыў у МВФ, як пацвердзіў кіраўнік МЗС краіны Р. Сікорскі, у адказ на падзеі ў Мінску падчас выбараў, не падтрымае просьбы ўлад РБ аб новых крэдытах.

**Украіна.** Услед за іншымі на постсавецкай прасторы краіна вырашыла павялічыць пенсійны ўзрост для жанчын да 60 гадоў, мужчын на дзяржслужбе -да 62 гадоў.

**Аргенціна.** Былы прэзідэнт-дыктатар Хорхе Відэла Вярхоўным судом прыгавораны да пажыццёвага зняволення за злачынствы супраць чалавецтва ў часы ваеннай хунты.

**Расія.** Напрыканцы года афіцыйная сітуацыя з беспрацоўем у краіне абвастрылася, колькасць беспрацоўных расіян дасягнула 1,543 млн. чалавек.

**Кот-д'Івуар.** Афрыканская краіна аказалася расколатай на дзве часткі і на мяжы грамадзянскай вайны пасля лістападаўскіх выбараў. Сотні чалавек ужо забіты і паранены.

**Гаіці.** Жыхары абяздоленага моцным землятрусам вострава ўстроілі самасуд і пазбавілі жыцця 45 чалавек, у асноўным шаманаў вуду за быццам распаўсюджанне тут халеры.

**Венесуэла.** Дэпутаты парламента краіны надзялілі прэзідэнта Уго Чавеса надзвычайнымі паўнамоцтвамі тэрмінам на 1,5 года, яго ўсе ўказы стануць набываць сілу закону.

**Англія.** Самы ажыўлены аэрапорт ЕС Хітроў у Лондане з-за моцных снегападаў і маразоў быў паралізаваны, транспартны хаос закрануў дарогі, чыгункі Францыі, Германіі,- Швецыі.

**Кіргізія.** Часовы ўрад краіны перадаў свае паўнамоцтвы новаму кааліцыйнаму кабінету міністраў на чале з лідарам сацыял-дэмакратаў Алмазбекам Атамбаевым.

**Украіна.** Пасля навагодніх святаў Чарнобыльская зона адсялення краіны стала турыстычнай, па спецыяльных маршрутах яе могуць наведаць усе жадаючыя.

**Іарданія.** Па просьбе ўрада краіны расійскія спецыялісты пачалі работы па пошуку на дне ўзбярэжжа Мёртвага мора рэшткаў існаваўшых біблейскіх гарадоў Садом і Гамора.

**Егіпет.** Героем дня ў краіне стаў моцна выпіўшы сербскі турыст Драган Сцевіч, які зваліўся на моры з вялікага трампліна , ударыўся задніцай аб галаву акулы і забіў яе.

**Расія.** У папулярнага спевака, 56-гадовага ўраджэнца горада Магілёва Барыса Маісеева з-за крывазліцця ў мозг пасля напружаных гастроляў аднялася ўся левая частка цела.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Разбітыя вокны і дзверы ў Доме ўрада ацанілі ў 29 млн. рублёў, аднак чамусьці ніхто з пагромшчыкаў альбо праваахоўнікаў са спецслужб так і не быў затрыманы.

**Мазыр.** На мясцовым НПЗ, як паведаміў канцэрн "Белнафтахім", плануецца з сакавіка па трубе Адэса-Броды дастаўляць нафту з Азербайджана.

**Мінск.** З просьбай да А. Лукашэнкі вызваліць журналістку І. Халіп, маці дзіця 3 гадоў, звярнуліся Упаўнаважаны па правах чалавека ў РФ У. Лукін і экс-прэзідэнт СССР.

**Камянец.** Пасля капрамонту магістральнага нафтаправода Мазыр-Брэст на яго ўчастку ў раёне адбылася аварыя, выцекла і загарэлася нафта на плошчы 1,2 га, яе тушылі 6 гадзін.

**Мінск.** Па дадзеных Белкамстата, летась у Беларусі найбольш падаражала бульба, амаль на 47 %, кошты круп, алею, цукру, сметанковага масла выраслі больш чым на трэць за год.

**Косава.** Жыхары самага малога горада Брэстчыны з насельніцтвам 2,5 тысячы жыхароў выступілі супраць зносу будынка ФАКа, аднак на яго ўтрыманне грошай у раёне няма.

**Мінск.** Праз 6 дзён пасля выбараў адбыўся вобыск, была канфіскавана ўся аргтэхніка афіцыйна акрэдытаванага ў РБ "Еўрадыё", работу яго карпунктаў поўнасцю паралізавалі.

**Гомель.** Супрацоўнікі КДБ і яго спецпадраздзялення "Альфа" затрымалі ў горадзе наркакур'ера, які рыхтаваўся пераправіць у ЕС адразу 5 кг наркотыкаў (гераіну і гашышу).

**Мінск.** Міністэрства абароны Беларусі пацвердзіла факт арышту генерала, камандуючага войскамі ВПС і СПА І. Азаронка, затрыманага за быццам бы "злоўжыванне ўладай".

**Гродна.** Каб прыцягнуць інвестараў з Польшчы і Літвы, Аўгустоўскі канал з плошчай 5800 гектараў будзе ўключаны ў склад свабоднай эканамічнай зоны "Гроднаінвест".

**Мінск.** На адным з выбарчых участкаў беларускай сталіцы па камандзе ЦВК быў праведзены паўторны падлік галасоў, бо ў выніковым пратаколе не ўлічылі 400 галасоў.

**Гомель.** У абласным цэнтры прыступілі да распрацоўкі праекта пабудовы аднапакаёвых танных кватэр без падзелу на кухню, прыхожую, калідор плошчай да 30 "квадратаў".

**Мінск.** У перадсвяточныя дні штодзённы грашовы абарот гарэлачнай прадукцыі РУП "Крышталь" дасягаў 120 млрд. рублёў, тут выпусцілі новы яе брэнд "Бацькава".

**Ветка.** Райаддзел міліцыі распачаў крымінальную справу супраць двух школьнікаў (14 і 15 гадоў), якія пры спробе скрасці бензін спалілі "Жыгулі" пенсіянера з вёскі Стаўбун.

**Мінск.** У Белдзяржфілармоніі прайшоў юбілейны вечар народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна з прэзентацыяй фільма пра класіка "Як па сухому".

**Барысаў.** Беларускае грамадзянства прыняў моцны бразільскі легіянер ФК "БАТЭ" Рэнан Брэссан, які цяпер зможа гуляць за нашу нацыянальную зборную па футболе.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Услед за Магілёўшчынай на сесіі аблсавета вырашана, што жыхары вобласці могуць браць у арэнду да 3 га зямлі для развіцця сваіх прысядзібных гаспадарак.

**Наваполацк.** Неабходную перадпродажную падрыхтоўку прайшоў комплекс НПЗ "Нафтан" з "Палімірам", для інвестараў яго рынкавы кошт ацанілі ў 3 млрд. долараў.

**Лепель.** На мясцовым малочнакансервавым камбінаце завяршаецца тэхпераўзбраенне цэха, у ім да вясны будзе поўнасцю закрыты працэс вытворчасці.

**Орша.** Жыхары пасёлка Копысь, стаўшага аграгарадком, паскардзіліся памочніку Прэзідэнта па Віцебскай вобл. , што ў іх вада дрэннай якасці і не чысціцца зімой вуліцы.

**Мёры.** На мясцовым мясакамбінаце начынаюць будаўніцтва новага халадзільнага комплекса для адначасовага захоўвання па сучаснай тэхналогіі 500 тон мясапрадуктаў .

**Расоны.** Галоўнаму ўрачу вобласці даручылі тэрмінова разабрацца, чаму пры лячэнні анкалагічнай хваробы жыхарцы райцэнтра не далі інваліднасць пры ампутацыі грудзі.

**Дуброўна.** На трэць задаволіць патрэбы льнозавода ў электраэнергіі парагенератарная ўстаноўка магутнасцю 150 кВт коштам 750 млн. руб., якая працуе на адходах вытворчасці.

**Віцебск.** Міліцыя затрымала траіх гараджан ва ўзросце 21-24 гадоў, якія зрэзалі замок і залезлі ў царкоўную лаўку, збілі вартаўніка і спрабавалі скрасці амаль 19 млн. рублёў.

**Глыбокае.** Маркетынгавая служба кансервавага завода пачала дызайнерскую распрацоўку яшчэ двух сваіх новых гандлёвых марак пад вядомай назвай "Праздник вкуса".

**Докшыцы.** У дні зімовых канікул шмат школьнікаў раёна наведалі адкрыты з дапамогай ЕС у Бярэзінскім біясферным запаведніку інтэрактыўны Цэнтр экалагічнай адукацыі.

**Віцебск.** Абласная бібліятэка папоўнілася каштоўным выданнем – факсімільным экземплярам, шэдэўрам айчыннага пісьменства XVI ст. – кнігай "Слуцкае Евангелле".

**Дуброўна.** Толькі пасля скаргі маці-адзіночкі ў газету "СБ. Беларусь сегодня" мясцовыя ўлады выдалі даярцы СВК "Першамайскае" даплату на нараджэнне другога дзіця.

**Верхнядзвінск.** У гэтым годзе райцэнтр упрыгожылі не адна, а дзве гарадскія навагоднія ёлкі на буйнейшых плошчах, правялі конкурс дызайнерскіх ёлак, паштовак да свята.

**Мёры.** У мясцовым Доме культуры прайшоў чарговы Х духоўны фестываль "Зорка Бэтлеема" з удзелам створаных пры храмах вобласці маладзёжных мастацкіх груп.

**Віцебск**. Кіраўніцтва ФК "Віцебск" звольніла галоўнага трэнера Ю. Канаплёва, які двойчы выратоўваў каманду ад вылету ў 1-ю лігу, яго замяніў сталічны спецыяліст С. Бароўскі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

# 230U$D

– па такой цане за тысячу кубаметраў пачала атрымоўваць Беларусь газ ад расійскага канцэрна "Газпрам" з 1 студзеня 2011 года. Як ні імкнуліся беларускія ўлады знізіць сёлета цану "блакітнага паліва" і ў тэмпе ратыфікавалі ўвесь пакет пагадненняў па Адзінай эканамічнай прасторы, але Крэмль не стаў мяняць дзеючы кантракт. Больш за тое, ці наўмысна, ці проста па супадзенні прыняў і агучыў такое рашэнне ў той дзень, калі Цэнтрвыбаркам РБ зацвердзіў вынікі нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў.

Як стала вядома, напярэдадні непрыемнага павышэння газавай цаны беларускі прэм'ер Сяргей Сідорскі патэлефанаваў свайму расійскаму калегу Уладзіміру Пуціну. Дагэтуль ішлі камерцыйныя перамовы, і кіраўнік урада РФ дапускаў такую магчымасць, што ў наступным годзе цэны на газ для Беларусі застануцца на ўзроўні 2010 года. Але атрымалася ўсё інакш, кошт паліва павысіўся адразу на 17 %, што даволі істотна для айчыннай эканомікі. Праўда, адначасова і ў дзіўна, што расіяне на гэты год знізілі цэны на газ на 15 % для Латвіі з Эстоніяй.

А вось для нашай краіны расійскі газ можа патаннець таксама на 15 % толькі з 2012 года, пасля заканчэння дзеючага цяпер пяцігадовага кантракта. Адзін з кіраўнікоў расійскага суперманапаліста Валерый Голубеў патлумачыў, што за аснову новых цэн на газ для Беларусі будзе брацца яго сярэднееўрапейская цана за выключэннем мытных пошлін і кошту транзіту, паколькі РБ уваходзіць у Мытны саюз. Як бы там ні было, але саюзнік атрымаў такі вось пераднавагодні "падарунак", магчыма, і ў святле масавых рэпрэсій у адносінах да ўдзельнікаў акцыі пратэсту 19 снежня (было арыштавана і 11 расіян).

Пашчасціла нашай краіне толькі ў тым, што хоць цяпер уся расійская нафта будзе пастаўляцца на НПЗ у Наваполацк і Мазыр без пошлін. Без пошлін зможам купляць і вырабленыя ў Расіі нафтапрадукты. Пры гэтым услед за палітолагамі і экспертамі той жа расійскі прэм'ер пацвярджае, што такі палітычны праект, як "Саюзная дзяржава РФ і РБ", проста знікне ў АЭП. Пайшлі размовы і аб стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра (расійскага рубля) у Мытным саюзе тройкі. З іншага боку, не прыйдзецца ўступаць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, куды расіяне плануюць уступіць ужо сёлета.

А вось перад беларускай эканомікай зараз стаяць складаныя задачы, паколькі апошнія 3 гады наша краіна жыла ў доўг. Пачынаючы з 2007 года знешні доўг у разліку на аднаго беларуса павялічыўся ў 2,2 разы. Беларусі хранічна не хапае валюты з-за адмоўнага сальда знешняга гандлю, які яшчэ больш узрос, калі мы сталі менш гандляваць нафтапрадуктамі з-за ранейшай палітыкі Расіі па гэтым пытанні. Пры ўсіх станоўчых момантах пагадненняў па нафце і газу ў рамках АЭП трэба рыхтавацца, што цэны на энерганосьбіты будуць расці і далей.

Эканамічнае здароўе Беларусі па-ранейшаму яшчэ далёка да поўнага выздараўлення. Сведчаннем істотных праблем выбранай мадэлі развіцця стала тое, што працягласць жыцця нацыі не расце, у адрозненне ад Польшчы, Чэхіі, Славеніі, дзе правялі паспяховыя рынкавыя рэформы. Беларусаў у пачатку снежня стала менш за 9,5 мільёна чалавек, летась за 11 месяцаў колькасць насельніцтва краіны зменшылася яшчэ на 16,9 тыс. чалавек. Хоць і палепшыўся апошнім часам у нас інвестыцыйны клімат, але Беларусь застаецца мала цікавай для буйных замежных інвестараў.

Яшчэ да выбараў спроба ўрада прадаць першую пяцёрку вызначаных прадпрыемстваў на конкурснай аснове поўнасцю правалілася. Пасля нядаўніх падзей на плошчы, на жаль, Захад зноў прадоўжыць практыку адмовы ад афіцыйных і гандлёвых кантактаў з беларускім кіраўніцтвам. Расія ў адносінах з Беларуссю на роўнадаходныя цэны па газу збіраецца выйсці толькі ў 2015 годзе, а да таго часу знізак на гэта паліва нам не будзе.

У такіх вось умовах, калі ў бліжэйшыя гады прыйдзецца аддаваць раней узятыя крэдыты, пераадолець тэхналагічную адсталасць і павысіць канкурэнтаздольнасць беларускіх тавараў на знешніх рынках, захаваць тэмпы росту ВУП будзе вельмі складана. Краіне прыйдзецца жыць па сродках альбо прынцыпова мяняць эканамічную мадэль развіцця.

# Светлая памяць пра ксяндза Юзафа Бульку не памірае

■ Кс. Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.

**Запрашаю ўшанаваць ксяндза Пралата Юзафа Бульку, гаспадара мосарскай прыгажосці, у гадавіну яго смерці тых, хто на шляху зямнога жыцця сустрэўся з гэтым святаром, сябраваў і цаніўяго, у нядзелю 9 студзеня ў 13:00 і 19:00, а таксама і ў панядзелак 10 студзеня 2011 года Святая Імша адбудзецца ў 13:00**.



Ксёндз Юзаф выхаваў шмат святароў, якія адчулі пакліканне да святарскага служэння. Гэтая ўдзячнасць і малітва з'яўляецца сведчаннем нашага ўшанавання для святара.

Да гадавіны з дня смерці прымеркаваная фотавыстава Яна Касевіча, прысвечаная памяці памерлага ксяндза Юзафа, якая будзе размешчана ў гэтыя дні ў парафіяльным доме.

Ушаноўваючы памяць пра ксяндза Юзафа Бульку, дзякуючы людзям добрай волі, на яго магіле ў найбліжэйшым часе будзе ўсталяваны помнік.



Ксёндз Юзаф Булька як шматгадовы пробашч парафіі ў в. Мосар Глыбоцкага раёна быў адным з першых святароў рымска-каталіцкага касцёла, які атрымаў дзяржаўную ўзнагароду «За духоўнае адраджэнне».

Вось ужо амаль год няма з намі гэтага святара. Але памяць пра яго жыве ў нашых сэрцах і малітвах. Вялікую спадчыну аставіў нам гэты чалавек з высакародным сэрцам.

Тэл.: 8-(02156)-3-29-49.

# Помнік жаўнерам, палеглым у 1812 годзе ў Зябках?

«Магіла польскіх і французскіх жаўнераў, якія палеглі ў 1812 годзе ў раёне паселішча Зябкі» – такі подпіс мае гэты архіўны здымак 1930-ых гг.

Апісанне здымка: «Два афіцэры ВП (Войска Польскага) каля магілы з драўлянай агароджай».

Вось гэта – сапраўдная загадка! Па-першае, наколькі гэта адпавядае праўдзе? У нас жа часам тысячагадовыя валатоўкі часта называюць французскімі магіламі! Гэта не адпавядае праўдзе. Па-другое, ці захаваўся гэты помнік? Можа, нашы чытачы дапамогуць?



Narodowe Archiwum Cyfrowe, sygn. 1-U-8200

# Міласэрны Новы Год

■ кс. Віктар Місевіч

1 студзеня бягомльская парафія Хрыста Валадара Сусвету арганізавала ў мясцовым інтэрнаце акцыю міласэрнасці. Для 125-ці дзяцей былі падрыхтаваныя падарункі. Кожнае дзіця атрымала мыла і шмат цукерак. Вельмі дапамагла ў правядзенні акцыі моладзь з Дзеркаўшчыны (Глыбоцкі дэканат). Яны разам з кс. Віталем Гальцам і настаўніцай Наталляй Васільеўнай Барыла падрыхтавалі для дзетак цікавую святочную праграму. Дзеці з захапленнем глядзелі спектакль Батлейку і ўдзельнічалі ў конкурсах.

Паводле каталіцкай традыцыі ўдзельнікі мерапрыемства падзяліліся аплаткай, жадаючы адно аднаму шчасця, радасці і здароўя. Апрача пакункаў з цукеркамі дзеці атрымалі 10 кг мёду. Гэты дар ахвяраваў спецыяльна для дома-інтэрната ў Бягомлі спадар Міцкевіч з Браслава. Хочацца адзначыць таксама ахвярнасць браслаўскіх дзетак. Яны падчас парафіяльных рэкалекцый збіралі цукеркі і печыва для сваіх аднагодкаў з Бягомля.

Акцыя міласэрнасці ў бягомльскім доме-інтэрнаце стала магчымай таксама дзякуючы гарачым сэрцам каталіцкіх юнакоў і дзяўчат з Барысава. Яны адмыслова перад Святам Божага Нараджэння збіралі ахвяры, прадаючы парафіянам сена на калядны стол. Усе гэтыя сродкі былі перададзеныя ў бягомльскую парафію на дабрачынныя мэты.

У свеце, як заўжды, стае гора і бяды ў людзей. Найбольш прыкра, калі церпяць ні ў чым не павінныя дзеці. Аднак дабром можна перамагчы зло. Міласэрнасцю можна даць рады нядолі. Дзеля гэтага патрэбна нашая салідарнасць. Няхай жа там, дзе церпіць адзін чалавек, гуртуецца дзесяць неабыякавых. Там, дзе трагедыя прыгнятае сотні – яднаюцца тысячы. Тады бяда не будзе знакам праклцця, а спрыяцьме асвячэнню ў дарозе да збаўлення.

*Фота: Ірына Грэйць*











*“Дитя мое! – сказал мне один мой дед, умирая, - пришла минута, когда все прошлое передо мной исчезло! Завеса разорвалась, мечты кончились. Я помню только о том небольшом количестве добра, которое успел сделать! Не забывай этих моих последних слов и передай их умирая своим детям”*

*Франциск Родольф Вейес*

# Эцюды аб жыцці і смерці

**Заканчэнне.**
*Пачатак у № 52 (560) 30 снежня 2010 года.*

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер, г. Дзісна.*



Гісторыя вельмі прыгожая і павучальная. Асабіста я веру аўтару, веру, што так усё і было. Менавіта імкненне да жыцця, імкненне дапамагчы таму, хто ў бядзе, пачуццё спачування да ўсяго жывога твораць цуды.

33 гады таму назад штосьці падобнае здарылася і ў маёй сям’і. Вяртаючыся з Дзісненскай васьмігадовай школы, мая дачка Лена, другакласніца, у пачатку лістапада (гэта быў пачатак другой чвэрці) побач са сваім домам каля сцяны касцёла знайшла кацяня. Напэўна, хтосьці прывёз жывёліну на аўтобусе (за 150 м ад касцёла знаходзіцца аўтастанцыя) і выкінуў беднае бездапаможнае кацяня на пагібель. Дачка яго падабрала і са шчаслівым тварам, быццам знайшла вялізны скарб, з’явілася дадому. Кацяня было мокрае, худое, мела вельмі непрывабны выгляд. Яно нават не магло нармальна мяўкаць, ахрыпла. Жонка, як убачыла гэта, прыняла такі выраз твару, быццам з карціны Рэпіна “Не чакалі”. І тут жа загадала дачцэ аднесці кацяня туды, дзе ўзяла. Дачка ў плач, таму што кацяняці гіне. А тое быццам зразумела, што вырашаецца лёс, моцна ўчапілася сваімі маленькімі кіпцюркамі ў паліто сваёй выратавальніцы, як быццам ад гэтага залежаў яго лёс, уважліва глядзела сваімі мокрымі бруднымі вачанятамі ў вочы дачкі, жалобна замяўкала сваім слабым ахрыплым голасам. Я ўспомніў, як гады 4 назад, будучы дырэктарам школы-інтэрната, прыйшлося разбірацца з агідным учынкам выхаванцаў малодшых класаў, сацыяльных сірот, якія знайшлі на гарышчы спальнага корпуса гняздо галубкі, дасталі яшчэ неапярыўшыхся птушанят і з задавальненнем здзекаваліся з яго.

На малым сямейным савеце прыйшлі да высновы пакінуць бедную жывёлу, але з умовай, што догляд за ім поўнасцю ляжа на выратавальніцу. У летняй сталовай, у якой было светла, цёпла і прасторна, абсталявалі яму куток. Дачка даглядала яго, вольны ад урокаў час праводзіла са сваёй Муркай. Тая расла як на дражджах, і праз месяц ператварылася ў цудоўнае здаровенькае кацяня. А што тычыцца дачкі, то яны сталі сапраўднымі сябрамі. Раніцай жонка давала каманду: “Мурка, ідзі будзі сваю Алену, а то ў школу спозніцца”. І тая ішла праз два пакоі з кухні ў спальню, скакала на ложак, жалобна мяўкала, пакуль тая не прачнецца.

Дзесьці ў красавіку яна ўмудрылася сустракаць на вуліцы сваю выратавальніцу, калі тая вярталася са школы. Калі дачка пайшла ў 9 клас сярэдняй школы, якая знаходзілася на другім канцы горада, то туды і назад ездзіла на аўтобусе. Дом наш знаходзіўся за 200 м ад аўтастанцыі. Тут ужо Мурка ўмудралася сустракаць сваю сяброўку на аўтастанцыі. Калі ж дачка паступіла ў Віцебскі педінстытут і праз суботу прыязджала дадому, звычайна пад вечар, то невядома якім чынам Мурка ўмудралася менавіта да прыходу аўтобуса з’яўляцца на аўтастанцыі, каб сустрэць сваю сяброўку. За тлумачэннямі я звяртаўся да многіх спецыялістаў, але дакладнага тлумачэння не атрымаў. Нават калі Мурка адчула, што сваё аджыла, то, каб не прыносіць лішніх клопатаў гаспадарам, сышла з дому.

Паважаныя чытачы! Прашу правільна мяне зразумець, мая мэта не канкрэтныя прыклады паказаць, а данесці, што ўсё жывое імкнецца да жыцця, хоча пражыць у нармальных умовах той адрэзак часу, які адведзены яму прыродай, Богам. У гэтым і ёсць сутнасць Гімна жыццю. Чалавек жа, як цар прыроды, абавязаны зрабіць усё, што ад яго залежыць, каб не толькі не нашкодзіць жыццю, а ахоўваць яго. У гэтым сутнасць адной з дзесяці Запаведзяў Бога: “Не забі!” Дык чаму ж у наш час вельмі часта мы сустракаемся з такой з’явай, калі жыццё чалавека ацэньваецца ў некалькі тысяч, а то і соцень даляраў. Прырода чалавека – цэлы акіян розных каштоўнасцяў, створаных прыродай і самім чалавекам. Але самая галоўная каштоўнасць – жыццё. І ніхто не павінен забіраць яго, нават сам чалавек.

Які чалавек – такі і свет, у якім ён жыве. Усё адбываецца ўнутры, у душы. І знешні свет, які нас акружае,–гэта адлюстраванне нашага ўнутранага свету. Мы не заўсёды разумеем, не можам ацаніць з’явы, якія адбываюцца вакол нас. А гэта патрэбна рабіць, успрымаць падзеі і з’явы адэкватна. Я доўга не мог даць адказ на сваё пытанне: адкуль столькі лютасці ў маіх 9-10-гадовых выхаванцаў, якія так жорстка абышліся з птушанятамі галубоў, і пры гэтым атрымалі задавальненне. Задавальненне ад таго, што ты можаш беспакарана адняць жыццё ў іншага. Прывяду канкрэтны прыклад. 2 верасня 2010 года адбылося пасяджэнне прэзідыума Савета Мёрскага раёна. Разглядалася пытанне росту злачыннасці. Начальнік РАУС В.М.Барадулін звярнуў увагу на парушэнні ў сферы сямейна-бытавых адносін. Узбуджана 21 справа і складзена 106 пратаколаў толькі па адным Заўцеўскім сельсавеце. У гэтых сем’ях дзеці бачылі сямейныя дэбошы, бралі іх на ўзбраенне.

Дазволю сабе прывесці сцэнарыі толькі двух эпізодаў, аб якіх расказаў у газеце “Мёрскія навіны” за 12.10.2010 г. начальнік аддзела дазнання РАУС І. Фурс. Жыхар, нехта Сяргей Панізнік, ад 23 сакавіка да 20 чэрвеня знаходзіўся ў стане запою, і за гэты час 9 разоў збіваў сваю сужыцельку. У ход ішлі кулакі, ногі, прадметы дамашняга побыту. У маі ў час скандалу ў ход пусціў сталовы відэлец, наносячы сужыцельцы ўдары ў грудзі, біў яе галавой аб сцяну. І гэта на вачах у дзяцей.



У верасні ў суд напраўлена справа на грамадзяніна в. Пад’ельцы, які, пагражаючы забойствам сваёй сужыцельцы, цягаў яе за валасы па падлозе, хацеў задушыць. Потым абліў яе бензінам, кідаў запалкі на падлогу, абліту́ю бензінам. На шчасце, пажар не адбыўся. Гэта яшчэ раз пацвярджае мае вывады да артыкула “Эпідэмія грамадзянскіх шлюбаў і яе вынікі”.

“Спагадлівасць і спачуванне” нашых душ, асабліва дзіцячых, фарміруецца пад уздзеяннем кінематографа, асабліва баевікоў, дзе безупынныя забойствы, катаванні, грабяжы, выбухі, кроў і смерць. Лепш ніхто не дае ацэнку гэтай з’яве, чым кінарэжысёр Станіслаў Гаварухін: “Адзіная задача любога мастацтва – абуджаць у чалавеку высакародныя пачуцці. А наша мастацтва, наша кіно абуджае ў чалавеку ганебныя інстынкты. Выхоўвае ў людзях абыякавасць – вось самае страшнае злачынства двух апошніх дзесяцігоддзяў”.

Наша феміда вельмі ліберальна адносіцца да асоб, якія здзейснілі забойства. За скрадзены мяшок зерня можна атрымаць 5 год турмы, і столькі ж за забойства. Зараз ставіцца пытанне аб адмене смяротнага пакарання. Чытач можа запытаць, вы ж толькі што сцвярджалі, што ніхто, акрамя Бога, не мае права адняць у чалавека жыццё. За адказам на гэта пытанне я вас адпраўлю да тых маці, у якіх забілі дачку яшчэ дзіцём, папярэдне паздзекаваўшыся з яе. Як маці жыць з думкамі, што гэты кат жывы, здаровы і рыхтуецца да новага злачынства. А яе дачка, над якой яна начамі сядзела ля калыскі, у якой бачыла сваю абарону і апору на старасці год, ляжыць у зямлі па віне гэтага нелюдзя. Запытайце ў таго мужчыны, які ў 150 м ад свайго дома ў адно імгненне страціў жонку і дваіх маленькіх дочак толькі таму, што дваім адмарозкам захацелася арганізаваць аўтагонкі прама на ажыўленай вуліцы горада і адзін з іх не справіўся з кіраваннем, урэзаўся ў слуп і забіў людзей. Запытайце ў тых маці, у якіх загінулі дзеці пад коламі аўтамабіляў, за рулём якіх былі злачынцы ў стане алкагольнага ап’янення. Яны што, не ведалі, што п’яны вадзіцель за рулём – патэнцыйны забойца?

Напэўна, нашы душы папалі пад крыміналізацыю, калі мы разумеем, што парушаем закон, што свядома ідзем на злачыннасць, спадзеючыся на наша “авось пранясе”. Не праносіць, праўдзіва кажучы, вельмі часта не праносіць, і па нашай віне людзі пазбаўляюцца жыцця,і, самае страшнае, што і дзеці. Мы што, не разумеем гэтага? Разумеем!

## Беларусь заняла трэцяе месца сярод рэспублік былога СССР па росце спажывецкіх цэн у студзені-лістападзе 2010 года

Беларусь заняла трэцяе месца сярод рэспублік былога СССР па росце спажывецкіх цэн за студзень—лістапад 2010 года. Пра гэта сведчыць праведзены БелаПАН аналіз дадзеных нацыянальных органаў статыстыкі.

На першай пазіцыі Кыргызстан, дзе з пачатку года цэны павялічыліся на 16,4%, за ім ідуць Грузія (10,7%), Беларусь (8,9%), Таджыкістан (8,8%), Украіна (8,2%). За пяцёркай лідараў — Расія (7,6%), Арменія (7,5%), Казахстан (7,1%), Малдова (6,7%), Азербайджан (6,2%), Эстонія (5,1%), Літва (3%) і Латвія (2,4%).

Ва Узбекістане цэны выраслі на 4,2% са студзеня да верасня, у Туркменістане — на 0,37% у студзені – верасні 2010 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года.

У лістападзе цэны ў Беларусі павялічыліся на 0,9%. Гэта пяты паказчык пасля Кыргызстана (2,9%), Азербайджана (1,8%), Арменіі (1,6%) і Грузіі (1,1%). У Таджыкістане, як і ў Беларусі, цэны выраслі на 0,9%. За імі размясціліся Казахстан, Расія (па 0,8%), Малдова (0,6%), Украіна, Эстонія (па 0,3%) і Латвія (0,2%). Не змяніліся цэны ў Літве. Няма дадзеных па Туркменістане і Узбекістане.

У 2009 годзе Беларусь заняла другое месца сярод рэспублік былога СССР па росце спажывецкіх цэн (10,1%; прагноз — 9—11%), у першым квартале 2010 года — 9-е, па выніках першага паўгоддзя і студзеня – ліпеня — 5-е, студзеня – жніўня — 3-е, студзеня – верасня — 4-е, студзеня – кастрычніка — 3-е.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

## У 2010 годзе беларускія спартсмены заваявалі 515 медалёў чэмпіянатаў і кубкаў свету і Еўропы

**У 2010 годзе беларускія спартсмены на Алімпійскіх гульнях, чэмпіянатах, кубках свету і Еўропы заваявалі 515 медалёў, у тым ліку 149 залатых, 144 сярэбраныя і 192 бронзавыя. Такія звесткі прыводзяцца ў навагоднім віншаванні міністра спорту і турызму Алега Качана работнікам міністэрства і ўсёй галіны.**

У мінулым годзе ў алімпійскіх відах спорту заваявані 221 медаль, у тым ліку 60 залатых, 76 сярэбраных і 85 бронзавых. У кулявой стральбе атрыманы дзве ліцэнзіі на Алімпійскія гульні 2012 года. Зарэгістраваны 41 спартыўны рэкорд Беларусі.

Качан адзначыў, што ўпершыню ў гісторыі выступлення самастойнай камандай на зімовых Алімпійскіх гульнях беларускія спартсмены заваявалі залаты, сярэбраны і бронзавы медалі. Тытула алімпійскага чэмпіёна ўдастоены Аляксей Грышын (фрыстайл, акрабатыка), сярэбраным прызёрам стаў Сяргей Новікаў (біятлон, індывідуальная гонка на 20 км), бронзавым Дар'я Домрачава (біятлон, індывідуальная гонка на 15 км).

У неафіцыйным камандным заліку Беларусь заняла 17-е месца ў свеце, 12-е у Еўропе, другое сярод краін СНД.

«Гордасць і павагу» выклікаюць вынікі паралімпійцаў, якія заваявалі 9 медалёў : 2 залатыя і 7 бронзавых. Такое выступленне беларускай зборнай стала нацыянальным рэкордам на зімовых Паралімпіядах.

Паводле слоў міністра, у краіне функцыянуе больш за 25,8 тыс. аб'ектаў фізкультурна-спартыўнага прызначэння. У 2010 годзе ўведзены ў эксплуатацыю спарткомплексы ў Магілёве і Лідзе, вяслярная база ў Жлобіне, Палац водных відаў спорту ў Брэсце, Лядовы палац у Лідзе і інш.

Рост аб'ёму турысцка-экскурсійных паслуг склаў 29,5% пры плане 26%, экспарт турыстычных паслуг 34,3% (19-20%), імпарт 34,8% (16-17%). «Гэтыя паказчыкі дазволілі выйсці на станоўчае сальда знешняга гандлю турыстычнымі паслугамі», – адзначыў Качан.

У 2009 годзе беларускія спартсмены заваявалі 527 медалёў чэмпіянатаў і кубкаў свету і Еўропы (167 залатых, 166 сярэбраных і 194 бронзавыя). Гэта лепшы вынік у гісторыі беларускага спорту.

У 2008 годзе быў заваяваны 401 медаль (107+129+165), у 2007-м 514, з іх 162 залатыя.

У 2009 годзе ў алімпійскіх відах спорту прадстаўнікі Беларусі 208 разоў падымаліся на п'едэстал гонару (66+65+77), у 2008-м – 149 (32+49+68).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

## Бягомльскі «Ветразь» будзе выпускаць патэльні з антыпрыгарным пакрыццём

Бягомльскі «Ветразь» стварыў з італьянскай кампаніяй «Джыярэці» сумеснае прадпрыемства па выпуску посуду з антыпрыгарным пакрыццём. Гэты праект ацэньваецца ў тры з паловай мільёны еўра. Паводле праекта, будуць змантаваныя дзве лініі па вырабу алюмініевага посуду.

Напачатку будуць выпускаць толькі антыпрыгарныя патэльні рознага дыяметру, пазней асартымент вырабаў пашырыцца. Як паведамляе БелТА, у афармленні посуду будуць выкарыстаныя італьянскія дызайнерскія напрацоўкі. Мяркуючы па вытворчых магутнасцях новага прадпрыемства, маецца магчымасць штомесяц выпускаць да 200 тысяч вырабаў. Пачаць вытворчасць плануюць напрыканцы 1 квартала 2011 года.

Для збыту прадукцыі будзе створаная дылерская сетка ў Беларусі, у тым ліку і ў абласных цэнтрах. Таксама плануецца зацікавіць беларуска-італьянскімі патэльнямі Расію, Украіну і краіны Балтыі.

## Беларусь заняла сёмае месца сярод краін былога СССР па тэмпах росту афіцыйнага курсу долара ЗША да нацыянальнай валюты ў 2010 годзе

**Беларусь заняла сёмае месца сярод краін былога СССР па тэмпах росту афіцыйнага курсу долара ЗША да нацыянальнай валюты ў 2010 годзе. Аб гэтым сведчыць праведзены БелаПАН аналіз курсаў на 31 снежня 2009 года і 31 снежня 2010 года.**

У першую пяцёрку ўвайшлі Латвія, дзе за год афіцыйны курс долара вырас на 9,41% (з 0,489 да 0,535 лата), Літва на 8,511% (з 2,4052 да 2,6099 літа), Узбекістан на 8,509% (з 1.511,4 да 1.640 сумаў), Эстонія на 7,78% (з 10,8653 да 11,7107 кроны) і Кыргызстан на 6,82% (з 44,0917 да 47,0992 сома). У краінах Балтыі нацыянальныя валюты прывязаны да еўра, які за год аслабеў да долара.

Далей ідуць Грузія з ростам курсу амерыканскай валюты на 5,16% (з 1,6858 да 1,7728 лары), Беларусь на 4,79% (з 2.863 да 3.000 рублёў), Расія на 0,77% (з 30,2442 да 30,4769 рубля) і Таджыкістан на 0,73% (з 4,371 да 4,4031 самоні). Не змяніўся курс у Туркменістане (2,85 маната).

Ва Украіне долар афіцыйна патанneў на 0,29% (з 7,985 да 7,9617 грыўны), у Казахстане на 0,58% (са 148,36 да 147,50 тэнге), у Азербайджане на 0,65% (з 0,8031 да 0,7979 маната), у Малдове на 1,20% (з 12,3017 да 12,1539 лея), у Арменіі на 3,82% (з 377,89 да 363,44 драма).

У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы, якая мае ўласную валюту, курс долара вырас за год на 13,33% (з 9 да 10,2 рубля).

Курс долара да беларускага рубля ў снежні 2010 года знізіўся на 1,06%. Гэта трэці паказчык пасля Расіі (2,65%) і Эстоніі (2,63%). У Азербайджане долар патанneў на 0,30%, у Туркменістане застаўся на ранейшым узроўні.

Кошт амерыканскай валюты вырас у Арменіі (на 1,22%), Грузіі (на 0,77%), Латвіі (на 0,75%), Літве (на 0,53%), Кыргызстане (на 0,51%), Узбекістане (на 0,37%), Украіне (на 0,30%), Малдове (на 0,26%), Таджыкістане (на 0,08%) і Казахстане (на 0,01%).

Самы нізкі курс долара да беларускага рубля ў 2010 годзе быў зафіксаваны 12, 13 і 15 студзеня 2.832 рублі, самы высокі 18 лістапада 3.040 рублёў.

У 2009 годзе ў сувязі са студзеньскай дэвальвацыяй Беларусь заняла першае месца сярод краін СНД і Балтыі па тэмпах росту афіцыйнага курсу долара да нацыянальнай валюты (на 30,14%), у 2008 годзе дзявятае (на 2,33%).

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

■ **Р. Ермаковіч,** *інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС.*

## Што рабіць пры паражэнні электрычным токам?



Пры паражэнні электратокам выратавальнікі рэкамендуюць дзейнічаць наступным чынам:

– –спачатку вызваліце пацярпелага ад дзеяння электрычнага току, не дакранаючыся да чалавека рукамі і токаправоднымі прадметамі: для гэтых мэт падыдуць драўляныя прадметы;

– затым пры магчымасці ўвядзіце пацярпеламу абязбольвальны сродак;

– пасля гэтага трэба накласці асептычную павязку.

Як і ў выпадку з апёкам, важную ролю сыграе транспартная імабілізацыя – створаная нерухомасць канечнасцяў пацярпелага падчас транспартавання.

**Як зрабіць школьныя вакацыі бяспечнымі?**

Калі дарослых халодная зіма прымушае часцей заставацца дома ва ўтульным крэсле, то для дзяцей гэта самая вясёлая пара. Каб дзеці маглі атрымліваць асалоду ад марозаў, а вы -- быць спакойнымі за бяспеку дзяцей, выратавальнікі раяць бацькам не грэбаваць наступнымі правіламі:

– яшчэ раз нагадайце дзецям пра надзвычайныя сітуацыі, якія могуць здарыцца ў кватэры ці доме: пра ўцечку газу, атручванні хімічнымі прэпаратамі, паражэнні электрычным токам;

– абмяркуйце з дзецьмі правілы папярэджання надзвычайных сітуацый, паводзіны ў выпадку іх узнікнення;

– сачыце, як дзеці праводзяць вольны час, чым цікавяцца, плануйце іх занятасць;

– не дазваляйце дзецям знаходзіцца ў патэнцыйна небяспечных месцах, спадзеючыся на тое, што ўважліва сочыце за імі;

– нагадайце дзецям пра недапушчальнасцьгульняў з выбуховымі рэчывамі і матэрыяламі, у тым ліку піратэхнічнымі вырабамі;

– запалкі і запальніцы захоўвайце ў недаступным для дзяцей месцы;

– калі дзеці застаюцца ў доме адны, не замыкайце ўваходныя дзверы знадворку, бо ў выпадку пажару гэта– адзіны шлях для выратавання.

**Як бяспечна сустрэць зімовыя святы?**

Дастаткова выконваць парады выратавальнікаў, каб зімовыя імпрэзы прайшлі весела і не сталі нагодай для слёз:

– елку заўсёды ўсталёўвайце на ўстойлівай падставе, як мага далей ад ацяпляльных сістэм і электрапрыбораў;

– ніколі не ўпрыгожвайце елку ватай, каляровай паперай ці іншымі лёгкаўзгаральнымі матэрыяламі;

–выкарыстоўвайце электрычныя гірлянды толькі прамысловага вырабу;

– не ўжывайце для ілюмінацыі елкі свечкі, бенгальскія агні і феерверкі;

– не пакідайце каля навагодняй елкі няпоўнагадовых дзяцей без нагляду старэйшых;

– не ўсталёўвайце святочныя феерверкі на балконах.

**Запомніце:** піратэхнічныя вырабы – небяспечная прадукцыя! Купляйце іх толькі ў спецыялізаваных магазінах.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

10 – 16 студзеня 2011 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 10 студзеня





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.45** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброеутро,Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** Женское ток-шоу
**10.10** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.05 «Маруся»**
**12.10 «Сваты-4»**
**14.10** «Н.Караченцов».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 «Маршрут милосердия»**
**17.25 «Маруся»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 00.55** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45 «Сваты-4»**
**00.00** «Гибель военного корабля «Мэн».
**01.00** День спорта.





**06.00,09.00**Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Морской патруль».**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45**«Модный приговор».
**14.50**«Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**17.05 «Слово женщине».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Принцесса специй».**
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Новогодний детектив».**
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20**«Золотая коллекция «Песняров».«Песняры». Золотые годы».
**00.50-01.10** Ночные новости.





**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Чисто английские убийства»**
**09.00 «Женить миллионера!»**1-я и 2-я с.
**10.45** Школа ремонта.



**11.40** «Страсти по культуре»
**12.25** «Лабірынты гісторыі беларускага фотамастацтва». 3-я ч.
**12.50 «Сила притяжения»**. 1-я серия.
**13.45** «17-ый Международный фестиваль циркового искусства в Масси».
**14.55** Мультсериал **«Дракончик и его друзья»** (Канада).
**15.30** Внеклассный час.
**15.45** Телебарометр.
**16.05 «Налетчики»**
**16.55 «Чисто английские убийства»**
**18.00 «Ты моя жизнь»**1с.
**19.05** Хоккей. КХЛ. Атлант ( Московская обл.)- Динамо (Минск). В перерыве: Калыханка.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Белорусское времечко.
**22.25** Комедийный сериал **«Интерны»**
**23.05 «Универ»**
**23.40** Овертайм.
**00.10** Детективный сериал **«Налетчики»**

СТВ REN TV — ТЭЛЕКАНАЛ "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Богатая и любимая».
**11.40** «Званый ужин».
**12.30** «Фантастика под грифом «Секретно»: «2012 Апокалипсис наступит завтра».
**13.30** «24 часа».
**13.50** Концерт Михаила Задорнова.
**15.40** «Дальние родственники».
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Взрослые игры»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«ОБИТАЕМЫЙ ОСТРОВ: СХВАТКА»**. Россия, 2009г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** ПРЕМЬЕРА! «Школа государственной службы».
**23.25** «Кино»: **«КРОКОДИЛ ДАНДИ В ЛОС-АНДЖЕЛЕСЕ»**.



БЕЛСАТ tv BELSAT

**07:00**Тыдзеньу«Аб'ектыве»
**07:30** Прэс-экспрэс
**07:45** Эксперт
**08:05** Рэмарка
**08:25** Моўнік
**08:35** ПраСвет
**09:00** Басанож па свеце : «Човен спадара Макарона»
**09:25** «Дэманстрацыя» дак. фільм
**10:35 «Пад Кубрыка»**
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Прэс-экспрэс
**12:25** Эксперт
**12:45** Рэмарка
**13:10** Моўнік
**13:20** ПраСвет
**13:50** Басанож па свеце : «Човен спадара Макарона»
**14:15** «Дэманстрацыя», дак. фільм
**15:20** «Minsk-Mixt-2008»: канцэрт гурта «Dali»
**15:35 «Пад Кубрыка»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Мой родны горад»**: 17 серыя
**17:30 «Час гонару»**: 11 с
**18:15** «Рок назаўжды-2», дак. фільм
**18:50** Госць «Белсату»
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:30** Калыханка для самых маленькіх
**19:40** Еўропа сёння
**20:10** Гісторыя пад знакам Пагоні: «Бітва з татарамі пад Клецкам»
**20:20**«Ябачыла«Рассвет»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:45 «Пад Кубрыка»**,
**23:10** Аб'ектыў

## СЕРАДА, 10 студзеня

# Двор Галубічы




Галубічы на польскай вайсковай тапаграфічнай мапе 1930-ых гг. Двор Галубічы адзначаны прамакутнікам са штрыхоўкай і падпісаны літарай «**D**».

■ **Ул. Скрабатун**

Здымкі, якія прапанаваныя ўвазе нашых чытачоў, былі знойдзены аўтарам гэтых радкоў яшчэ паўтара года таму на сайце Нацыянальнага Лічбавага Архіву (Польшча). Гэтыя здымкі датычаць панскай сядзібы ў мястэчку Галубічы Дзісненскага павету (цэнтр павету – г. Глыбокае) Віленскага ваяводства, якая існавала да 17 верасня 1939 года.

Увосень 2009 года аўтар і аматар вандровак Кастусь Бахір накіраваліся ў Галубічы. Наіўна было меркаваць, што ад гэтай панскай сядзібы нешта засталося, бо мястэчка было спаленае нямецкімі акупантамі ў часе апошняй вайны. У адрозненне ад Хатыні Галубічы ізноў паўсталі з попелу. Не збіраліся мы і шукаць падмуркі ад тых будынкаў, што адлюстраваныя на здымку. Аднак была нагода наведаць Галубічы!

Ала Вярцінская, колішні супрацоўнік глыбоцкага музея, параіла сустрэцца з адным старажылам, жыхаром Галубічаў, які памятае прыезд пана прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігнація Масціцкага ў Галубічы і яго паляванне ў Галубіцкай пушчы. Меркавана, пан прэзідэнт мог спыніцца ў гэтым панскім двары. Гэта выглядала б зусім натуральна.

Здымкі наўпрост сведчаць: панскі двор быў своеасаблівым цэнтрам палявання. Аднак я не знайшоў ніякіх доказаў, што менавіта гэтыя здымкі звязаныя з прыездам Ігнація Масціцкага ў Галубічы. Але, праўдападобна, яны адлюстроўваюць нейкую важную падзею. Дужа важная «шышка» завітала! Не верыце? Глянем чацвёрты здымак – унізе, справа. Фатограф – у кадры, і фатограф, які зрабіў гэтае фота. Два фатографы!

Не! Тры! Чалавек у кадры справа – таксама з фотакамерай! Трэба проста добра прыгледзецца. Тры фатографы (а мо й болей па-за кадрам) – занадта шмат для шэраговага мерапрыемства! Гэта не сёння, калі ў кожнага – лічбавы фотаапарат (альбо мабільны тэлефон з фотакамерай). Мець фотаапарат простаму чалавеку тады было недаступна. Фотаапараты мелі заможныя людзі, рэдакцыі газет альбо камерсанты (фотаатэлье). А тут – тры фатографы!

Шкада, але таго чалавека, які мог распавесці цікавую гісторыю, ужо тры гады як не было сярод нас. Ён адышоў у лепшы свет. І гэтую гісторыю ён забраў з сабою. Нам не пашанцавала!

Зайшлі у адзін-другі двор мясцовых жыхароў. Пагутарылі. Тых людзей, якія маглі нешта прыгадаць пра даваенныя Галубічы, мы не знайшлі. Ніхто нічога не мог параіць. Затое неверагодных гісторый пра знаходкі яўрэйскага золата пачулі хоць адбаўляй. Хтосьці, напрыклад, чысціў студню і адкапаў ёмістасць з залатымі манетамі і іншымі ювелірнымі каштоўнасцямі. Ну, гэта як у Глыбокім! Дзе ні капні – знойдзеш скарб.

Паехалі на месца меркаванага панскага двара. Распытваць аб яго месцазнаходжанні не было патрэбы. Ёсць у нашым распараджэнні мапы 1860-ых і 1930-ых гг. Двор Галубічы (як і іншыя панскія маёнткі ды фальваркі, засценкі) адзначаныя на мапах[1] асобна. Ды й не раз, праязджаючы праз Галубічы, звяртаў ўвагу на паркавыя прысады са старых ліп, што стаялі збоч дарогі, якая вяла на Падсвілле.

Прыехалі. А тут – “лесапавал”! 300-гадовыя ліпы ў два абдымы – спіленыя. Ляжаць долу! Зачыстка тэрыторыі пад чарговы аграгарадок! Разумею: людзям патрэбнае жыллё! Разумею! Дык што, у Галубічах не знайшлося іншага месца, іншай вуліцы, каб паставіць гэтыя новыя дамы? Пііліць трохвяковыя ліпы – пячорнае варварства! Аб чым думалі? А якая думка пра тое мясцовых жыхароў? Задаў пытанне аднаму-другому сустрэчнаму.

– Хто б мог падумаць, што ліпы будуць пілаваць! Мы не ведалі! Не здагадваліся! Як убачыў я – сэрца “аблілося крывёю”– кажа адзін мясцовы жыхар. Тут жа, сярод гэтых ліпаў, прайшло нашае дзяцінства. Спілавалі тое апошняе, што засталося ад даўніх Галубічаў.

Падобныя выказванні я пачуў і ад іншых жыхароў Галубічаў.

Я – наіўны рамантык!– кажу часта я сам сабе. Не ў той Беларусі жыву, а ў той, якая ёсць толькі ў мроях! Не патрэбная нашаму народу ні мова, ні гісторыя, ні культура. Толькі і чуеш – “бітва за ўраджай”: пасяўная, праполка, жніво! Вось падавалася мне, наіўнаму, што шматлікія мае напрацоўкі будуць спрыяць развіццю турызму, напрыклад. Думаў, што можна было б зайсці ў сельсавет, лясніцтва, паказаць здымкі. Прапанаваць ідэю. Гіпатэтычна, можна аднавіць гэтыя драўляныя будынкі. У Галубіцкай пушчы лесу шмат! Не сумняваюся, што ў архівах ёсць і абмерныя чарцяжы. У Вільні, напрыклад.

Вось вам – музей Галубіцкай пушчы! Дом паляўнічых! Хоць і не паляўнічы замак, як у Чэхіі ці Нямеччыне, але замежныя паляўнічыя прыехалі б. І грошай Галубічам падкінулі б, і нямала! А пад гэта можна было б падвязаць і міжнародны паляўнічы фэст, як, напрыклад, у чэшскім гарадку Глыбокае над Влтавай. У Падсвіллі ж арганізаваць выраб “сувенірных” напояў. Пафантазіруем! “Галубіцкі егер”, “Галубіцкая пушча”, “Дзядзька Язэп”[2] …

У сельсавет я не пайшоў, як і ў лясніцтва. Каму тое цікава!

---

мапа[1] – геаграфічная карта,

“Дзядзька Язэп”[2] – Язэп Драздовіч нарадзіўся ў засценку Пунькі, што ў Галубіцкай пушчы.




**1. Галубічы, Віленскае ваяводства. Двор зімой. Паляўнічыя перад дворам. Фота да 1939 года.**




**2. Двор Галубічы. Агульны выгляд двара і паляўнічыя ў санях, якія запрэжаныя коньмі. Фота да 1939 года.**




**3. Галубічы, Віленскае ваяводства. Двор зімой. Паляўнічыя перад дворам. Фота да 1939 года.**




**4. Галубічы, Віленскае ваяводства. Двор зімой. Паляўнічыя перад дворам. Фота да 1939 года.**

# Ў Áåëàðóñ³ íàáûë³ ñ³ëó çìåíû ¢ ïàäàòêîâûì çàêàíàäà¢ñòâå

■ Аляксей Арэшка, БелаПАН

**У 2011 годзе ў Беларусі набывае сілу шэраг змен у падатковым заканадаўстве.**

Як паведамілі ў Міністэрстве фінансаў, у аснове змен ляжаць тры асноўныя кірункі. Скарочана колькасць падаткаў, што дазволіць знізіць падатковую нагрузку на эканоміку. Скарочана перыядычнасць выплаты падаткаў і падачы падатковай дэкларацыі. Гэта знізіць часавыя і працоўныя затраты падаткаплацельшчыка. Удасканалены механізм збору асноўных падаткаў і пашыраны інвестыцыйныя льготы.

У прыватнасці, з 2011 года адмяняюцца два мясцовыя падаткі — збор на развіццё тэрыторый і мясцовы падатак на паслугі. У складзе эканамічнага падатку адмяняюцца тры плацяжы. Аснову падатковай сістэмы цяпер складаюць падаткі на спажыванне, прыбытак і даходы, на ўласнасць, зямельны падатак і сацыяльныя плацяжы. Прычым звычайныя плацельшчыкі будуць выплочваць з гэтага пераліку ўсяго пяць плацяжоў. Падача дэкларацый па гэтых падатках будзе ажыццяўляцца пераважна адзін раз у квартал. Яшчэ пяць гадоў таму абавязковых плацяжоў было больш за 20, а дэкларацыі падаваліся штомесяц.

Як чакаецца, з улікам таго, што затраты на выплату падаткаў зніжаюцца як з боку плацельшчыкаў, так і падатковых органаў, усё гэта будзе садзейнічаць развіццю прадпрымальніцкай дзейнасці.

Акрамя таго, для вырашэння пытанняў актывізацыі інвестыцыйнай дзейнасці з 2011 года ўдасканальваюцца асноўныя інвестыцыйныя льготы ў падатковым заканадаўстве. Сёння яны пакуль прымяняюцца з абмежаваннямі, а з наступнага года гэтыя абмежаванні здымаюцца. Па падатку на прыбытак будуць ільгатавацца капітальныя ўкладанні непасрэдна пры іх ажыццяўленні, прыбытак, які накіроўваецца на капітальныя ўкладанні, будзе вызваляцца ад падатку.

Па ПДК здымаецца абмежаванне па падатковых выліках, якія ажыццяўляюцца пры інвестыцыях.

Паводле ацэнак Мінфіна, у цэлым прынятыя меры дазволяць знізіць падатковую нагрузку ў 2011 годзе на 0,4% ВУП, што складзе больш чым 700 млрд. рублёў.

# Áðûòàíñê³ÿ ìåäûê³ ðàÿöü âûêàðûñòî¢âàöü ì¸ä ó áàðàöüáå ç ïàõìåëëåì

**Брытанскія навукоўцы з Каралеўскага хімічнага грамадства сцвярджаюць: перажыць працяглыя святочныя застоллі дапаможа мёд.**



■ Алена Гордзіна

Яны высветлілі, што гэты салодкі натуральны прадукт выдатна выводзіць таксіны з арганізма, нягледзячы на вялікі аб'ём алкаголю, які выпіваецца ў нас у святы.

Асноўны актыўны інгрэдыент - фруктоза. Менавіта яна дазваляе арганізму лягчэй расшчапляць алкаголь на бяспечныя пабочныя прадукты. Уласна кажучы, чыннік непрыемных адчуванняў пасля празмернага ўжывання алкаголю ў тым, што спірт спачатку расшчапляецца на таксічны ацэтальдэгід. Ён, у сваю чаргу, пры дапамозе фруктозы ператвараецца ў воцатную кіслату,якая спальваецца падчас звычайнага працэсу метабалізму і ператвараецца ў дыяксід вугляроду, які выдыхаецца чалавекам.

А вось калі ўжываць алкаголь з мёдам, у гэты ланцужок дадаецца калій і натрый, што таксама спрыяе хутчэйшай перапрацоўцы алкаголю. Доктар Эмслі сведчыць: мёд зможа значна скарацiць час пахмелля. Яшчэ ён раіць перад ужываннем алкаголю выпіваць шклянку малака - яно скарачае аб'ём таксічных рэчываў у арганізме. А звычайная вада будзе спрыяць хутчэйшаму вывядзенню алкаголю з цела.

# Àïåðàöûÿ "Íîâû ãîä", ö³ Êàçêà ç íåø÷àñë³âûì êàíöîì

**Скандал адбыўся 2 студзеня ў Лёдавым палацы Віцебска, дзе павінна было праходзіць шоў "Аперацыя "Новы год". Замест разрэкламаванага афішамі ўнікальнага гледзішча з ліліпутамі і экзатычнымі звярамі дзеткі ўбачылі некалькі пудзеляў і жанглёраў, якія ўвесь час валіліся з ровараў.**

■ Сяржук Серабро

Расчараванне дзетак і абурэнне бацькоў было такім, што магло адбыцца лёдавае пабоішча. Другое выступленне, якое павінна было пачацца ў 16:00, дырэкцыя адмяніла. Сёння прыйшоўшых гледачоў таксама сустракала таблічка "Выступ цырка адменены".

Фае Лёдавага палаца запоўнена разгневанымі бацькамі, бабулямі і дзядулямі. Ім насілу атрымоўваецца супакоіць дзяцей, якія чакалі навагодняга цуду. Убачыўшы прафесійную фотакамеру карэспандэнта "Народных навін Віцебска", пачынаюць жаліцца на несправядлівасць.

Распавядае адна з расчараваных Таццяна Аляксандраўна Асіпкова, пенсіянерка з вёскі Любава:

- Сёння я з унукам прыехала на шоў ліліпутаў і ілюзіяністаў. Але на дзвярах мы ўбачылі аб'яву, што шоў не будзе, з нагоды звароту грошай трэба было звяртацца па тэлефоне, але нумар быў недаступны. У Лёдавым палацы нас сустрэў начальнік аховы, ён паабяцаў, што грошы за квіткі вернуць на працягу 60 дзён.Затым мы вырашылі дэлегаваць двух чалавек да дырэктара, нас не жадалі пускаць, але праўдамі і няпраўдамі, дзе-ндзе праз парэнчы, мы дайшлі да кабінета. Дырэктар адмовіўся выдаць нам пісьмовае абавязанне таго, што Лёдавы палац кампенсуе кошт квіткоў.

Мы патэлефанавалі ў АБЭП Першамайскага РАУС, дзе нам паведамілі, што затрыманага адміністратара шоў адпусцілі, бо ёй не было прад'яўлена ніякага абвінавачвання. Зараз жа яна знікла, і міліцыя яе шукае. Кошт квіткоў - 50 000 рублёў, я набыла чатыры квіткі, гэта значыць, заплаціла 200 000 рублёў, а пенсія ў мяне 500 000. Цяпер я дзве гадзіны знаходжуся ў фае Лёдавага палаца, замест таго, каб глядзець з унукам прадстаўленне.

Такім чынам, цырк з'ехаў, клоунамі засталіся віцебскія гледачы, якім яшчэ трэба будзе вяртаць свае грошы. Па горадзе засталіся афішы "ўнікальнага гледзішча", якія выглядаюць прамым здзекам над усімі кантралюючымі органамі, бо студэнты-гумарысты з Кастрамы абяцалі прывезці даверлівым віцяблянам не толькі фэнтэзійных оркаў, але і нейкіх загадкавых турантонаў, пра якіх нават Google нічога не ведае...

# ßê õóòêà ïàçáàâ³ööà àä ïëÿì?

**На Новы год я апранала лёгкую белую сукенку. Яна была рамантычнай і беласнежнай... роўна да бою курантаў.**

Падчас галоўнага віншавання мяне аблілі чырвоным шампанскім. Я паспрабавала выратаваць свой убор з дапамогай дробкі солі і гарачай вады, але разводы сталі яшчэ больш прыкметныя. Пасля таго выпадку стала збіраць парады пра тое, як хутка вывесці плямы з любой тканіны.

**Ад рознага алкаголю**

Вінныя плямы знікаюць, калі старанна прамыць іх у цёплым малацэ, пасля чаго прапаласкаць спачатку ў халоднай вадзе, а потым у растворы лімоннай кіслаты. Галоўнае, доўга не трымаць кіслату (на ёй могуць выявіцца новыя, ужо жоўтыя разводы). Плямы ад белага віна лёгка сыходзяць, калі іх працерці лімоннай долькай, а затым кубікам лёду.

**Ад васковых свечак**

Мне падабаецца ў святы запальваць у гасцінай некалькі свечак. Асабліва люблю араматычныя, якія напаўняюць кватэру пахам ванілі ці карыцы. Мы часта забываемся пра тое, што некаторыя свечкі практычна дагарэлі. Расплаўлены воск сцякае за межы круглых падсвечнікаў прама на шаўковы абрус. Мне параілі здымаць воск з тканіны закругленым прадметам. Я абрала для гэтай місіі лякала (пластыкавая чарцёжная прылада). Спачатку думала, што воск зручней саскрэбці звычайным нажом, але рызыка пашкодзіць тканіну была занадта вялікай. Калі ад верхняга пласта воску я пазбавілася, сапсаваны кавалак абруса паклала паміж лісткамі прамакальнай паперы (выварaтам угару) і прагладзіла цёплым прасам.

**Ад садавіны і ягад**

Кропелька соку можа сапсаваць увесь святочны вечар. Цешцеся, калі ёсць у што перапрануцца, і адразу ж ратуйце сукенку. Толькі не замывайце мылам! Яно толькі дапаможа фруктоваму соку замацавацца на тканіне. Пляму на шчыльнай тканіне трэба трохі адпарыць (досыць патрымаць дзве хвіліны над каструляй з кіпнем). Затым працерці самым звычайным воцатам. У хаце не аказалася воцату? Пратрыце пляму кефірам ці ледзь цёплым малаком.

**Ад моцнай кавы**

Чайную лыжку акунулі ў кубачак, затым крыху прамахнуліся... і вось ўжо красуецца цёмная пляма. Разводы ад латэ, амерыкана, капучына трэба замываць адразу ж. Свежыя плямы ад кавы можна хутка вывесці і адпраўць у мыццё. З застарэлымі будзе зладзіцца нашмат складаней. Самы просты варыянт - працерці тканіну ватным спонжам з перакісам вадароду. Пляму на швэдры з поўсці спачатку трэба працерці сухім мылам, затым прамыць цёплай вадой. Мой калега па працы сцвярджае, што плямы ад какавы і кавы знікнуць, калі вымыць рэчы ў цёплай вадзе з соллю.

**Ад яркіх чарнілаў**

На навагоднія святы да нас прыязджаюць шматлікія сваякі. Дзяцей абавязкова трэба чымсьці заняць, пакуль дарослыя прыдумляюць тосты і абмяркоўваюць знаёмых. Звычайна самыя маленькія захопленa малююць, часам нават на адзежы. У маёй сястры ёсць невялікі адрэз мяккай тканіны, якую яна змочвае ў спірце і акуратна працірае плямы ад шарыкавых ручак і фламастараў. Чарнільныя плямы на ваўняных тканінах лепш за ўсё апрацаваць белай глінай. Яе не трэба разводзіць. Наадварот, яна павінна быць сухой. Гліняны парашок нядоўга ўціраюць у чарнільную пляму на поўсці. Затым швэдру ці шалік можна пачысціць шчотачкай. Чырвоныя чарнілы выводзіць гарчыца. Яе трэба пакінуць на пляме на цэлую ноч, а раніцай прапаласкаць тканіну ў цёплай вадзе.

**І яшчэ.** Не трэба перад вывадам плям мыць рэчы ў гарачай вадзе. Менавіта да мыцця варта выдаляць самыя "папулярныя" плямы - ад садавіны, віна, касметыкі, малочных прадуктаў. Пляму пачынайце сціраць асцярожна з краёў, паступова набліжаючыся да яе цэнтра. Такім чынам можна пазбегнуць ўтварэння разводаў.

# Øëþá êàðûñíû äëÿ çäàðî¢ÿ

Навукоўцы аналізавалі фактар даўгалецця і прыйшлі да высновы, што вернасць аднаму партнёру падаўжае жыццё.

Даследнікі на чале з доктарам Эммануэлем Джаніні з Універсітэта Фларэнцыі правялі шэраг эксперыментаў. У выніку яны выявілі, што тыя мужчыны, якія вялі актыўнае сексуальнае жыццё, але пры гэтым захоўвалі вернасць сваёй другой палове, менш пакутуюць ад сардэчна-сасудзістых захворванняў і ў сярэднім жывуць даўжэй.

У даследаванні прынялі удзел чатыры тысячы мужчын. Як распавёў доктар Джаніні, пры актыўным сексуальным жыцці ў мужчыны выпрацоўваецца больш тэстастэрону - мужчынскага гармона. Гэта змяншае рызыку з'яўлення дэпрэсіі, паляпшае стан сардэчна-судзістай сістэмы і ў цэлым паляпшае абмен рэчываў у арганізме.

Акрамя гэтага, вернасць павялічвае стрэсаўстойлівасць, засцерагаючы мужчыну ад нервовых узрушэнняў..

## ІМЯНІНЫ

**6 студзеня**
**Пр.:** Клаўдзіі, Яўгеніі, Мікалая, Сяргея.
**К.:** Тры Каралі (Вадохрышча – Аб’яўленне Пана), Андрэя.

**7 студзеня**
**Пр.:** РАЖСТВО ХРЫСТОВА.
**К.:** Люцыяна, Раймонда.

**8 студзеня**
**Пр.:** Канстанціна, Яфіма.
**К.:** Мсціслава, Артура, Севярына.

**9 студзеня**
**Пр.:** Сцяпана, Фёдара.
**К.:** Юльяны, Тэрэзы, Антонія.

**10 студзеня**
**Пр.:** Агафіі, Дарафея, Зяновія, Ігната, Міканора, Пятра, Яфіма
**К.:** Вільгельма, Ады, Данута, Рыгора, Яна.

**11 студзеня**
**Пр.:** Ганны, Варвары, Наталлі, Івана, Варвары, Марка.
**К.:** Івана, Марты, Аляксандра, Фелікса.

**12 студзеня**
**Пр.:** Макара, Марыі, Іосіфа, Якава.
**К.:** Чаславы, Аркадзя, Таццяны, Бярнарда.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Русский архитектор | ↓ | Принадлежность для игры в городки | Роды кошки | ↓ | Римский император | Морской орел | Лососевая рыба | Портянка | Буква грузинского алфавита |
| Отделочный материал | → | ↓ | ↓ | | Сорная колючая трава | → ↓ | ↓ | ↓ | ↓ |
| Игра в ответы на вопросы | → | | | | | | | | |
| → | | | | Селение в Средней Азии | Враль | → | | | |
| Запрет | Вид боевых действий | → | | ↓ | | | Брат Леха и Чеха | | Крутой кипяток |
| Двигатель внутреннего сгорания | Порт на реке Енисей | Часть пищевода у птиц | Мужское имя | | Характер | → | ↓ | | ↓ |
| → | ↓ | ↓ | ↓ | | | Земельный надел восточного феодала | | Корона царей древней Персии | |
| Взятие хоккейных ворот | → | | | Столица Йемена | Древнегреческое название Дуная | → ↓ | | ↓ | |
| Город в Краснодарском крае | → | | | | ↘ | | Флоэма | | Императорская династия в Китае |
| Рыбный деликатес | | Греческая буква | | Собрание карт | → | | ↓ | | ↓ |
| → | | ↓ | | Государство в Тихом океане | → | | | | |
| Артерия | → | | | | | Землевладелец в Средней Азии | → | | |

**Ответы на сканворд № 52**

**По горизонтали:** Потеря. Днепр. Отруби. Лемех. Лисица. Вулкан. Дьякон. Гайка. Миди. Карлсон. Рапс. Ани. Изюм. Скапен. Аше. Нитрат. "Дурак". Ана. **По вертикали:** Прохлада. Торос. Рыбец. Дельвиг. Ермолай. Инь. Инки. Айни. Ямал. Одеон. "Асса". Кокс. Резник. Самара. Нищета. Рысь. Пуату. Иена. Шан.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень



**АВЕН.** Ззаду засталіся святочныя выхадныя. Вы адчуваеце дзіўную стомленасць; быццам бы адпачывалі і нават адпачынак стаў у цяжар - захацелася ўкласці энергію ў новыя справы, але няўдача ў тым, што замест гэтага хочацца куды-небудзь з'ехаць! Каханне паднесла неспадзеўкі яшчэ на мінулым тыдні, цяпер прыйдзецца або выпраўляць тое, што нарабілі, або карыстацца выгодамі новага знаёмства. Жыццё не стаіць на месцы, адносіны змяняюцца, мяняецца каханы чалавек, і гэта адлюстроўваецца на настроі.



**ЦЯЛЕЦ.** Тыдзень досыць паспяховы. Вы будзеце нарасхват, запатрабаваныя на ўсе "сто". Віртуозна лавіруйце, імкнучыся дагадзіць іншым і сябе не абразіць. Верагодна, прыйдзецца прайсці сур'ёзныя выпрабаванні на канкурэнтаздольнасць, каб не зваліцца з кар'ернага алімпу. Дзякуючы кемлівасці, ўсюды паспееце, умацуеце аўтарытэт, заробіце грошай. Адплачвайце своечасова да капейкі, пазык у вас быць не павінна. У канцы тыдня мае быць захапляльная прыгода.

**БЛІЗНЯТЫ.** У пачатку тыдня адпраўляйцеся з каханым чалавекам пацешыцца, паколькі тыдзень чакаецца клапотны. У першай палове тыдня добра б папрацаваць на ўласны поспех, тады далей зможаце спакойна адпачыць. Варта асцерагацца выхадных, існуе шанец у гэтыя дні патрапіць у цяжкае становішча ці канфліктную сітуацыю.





**РАК.** Досыць кардынальна зменіцца кола вашых інтарэсаў, што пацягне за сабой новыя захапленні. Далей - свежае кола зносін, цікавыя знаёмствы і адданыя сябры. Любоўныя адносіны таксама не прымусяць сябе доўга чакаць. Знаёмцеся, усталёўвайце кантакты, але не забывайце пра асцярожнасць. Вас чакаюць паездкі, а сустрэчы са старымі сябрамі прыхарошаць вольны час. Сямейныя Ракі ўмацуюць адносіны ў шлюбе, што добра адаб'ецца на настроі.

**ЛЕЎ.** На новым тыдні паўстане вялікае жаданне задаволіць уласныя матэрыяльныя апетыты.. Асабістае жыццё для вас застаецца асноўным арыенцірам і закладам шчаснай будучыні. Вы незалежныя і рашучыя, як ніколі, і гэта можа ўнесці праблемы ў адносіны з блізкімі. І ўсё-ткі трымаць эмоцыі ў кулаку не варта, лепш выплюхніце іх далікатна, каб нікога не абразіць.

**ПАННА.** Вас чакае досыць займальны тыдзень. Пачатак яго падорыць добрыя навіны. Пачынаючы з сярэдзіны, у вашых адносінах з партнёрам будзе нарастаць некаторая адчужанасць. Але хіба хто-небудзь казаў, што гэта дрэнна? Наадварот: глядзіце на гэта як на магчымасць выявіць сябе ў іншых абласцях, бо адпачынак адзін на адзін можа асвяжыць узаемныя пачуцці. Вы моцная асоба, і калі вас не збіваць з курсу, то вы здольныя на вельмі і вельмі шматлікае.

**ШАЛІ.** Калі вы чымсьці захапляецеся, то робіце гэта сур'езна, ці не так? У дадзены перыяд вашым найбольш моцным жаданнем можа стаць заваёва прыхільнасці асобы процілеглага полу. Зоркі раяць вам прыхаваць свой напор, паколькі ад яго застаецца адзін, зусім невялікі, крок да банальнай дакучлівасці. Але калі вам атрымаецца прытрымвацца спакойнай упэўненасці і ўсведамлення ўласнай добрай годнасці, то хутчэй за ўсё, ваш аб'ект не зможа выстаяць.

**СКАРПІЁН.** Добры тыдзень, прынясе поспех. Увага, якую пачнуць аказваць вам людзі, якія вас акружаюць, дапаможа падняць самаацэнку. Некаторыя рэчы здадуцца падарункамі лёсу. А можа быць, так яно і ёсць? Калі шчасце само плыве ў рукі, грэх, ад яго адмаўляцца і не скарыстацца спрыяльным размяшчэннем зорак. Змены ў вашым лёсе могуць пачацца ўжо на гэтым тыдні. Утоеныя працэсы ўжо пачаліся, і калі шматлікае пакуль яшчэ схавана ад вашых вачэй, гэта не азначае, што нічога не адбываецца.

**СТРАЛЕЦ.** Новы тыдзень будзе плённым. Вы пераробіце масу спраў, натхняючыся мінулымі святамі. У калектыве вас любяць. Сяброўства - гэта святое, захоўвайце пачуццё прыхільнасці. Акрамя таго, цяпер менавіта сябры падкажуць, як вам лепш паступіць. Чалавек, якога вы кахаеце, здаецца вам пазбаўленым усялякіх недахопаў? Атрымлівайце асалоду ад праведзеных разам дзён, яны пакінуць на сэрцы незгладжальны след.

**КАЗЯРОГ.** Прадстаўнікоў знака чакае маса неспадзевак. Некаторыя змогуць змяніць жыццё настолькі, што будзе хацецца цішыні і спакою. Магчыма, некаторыя змены вас будуць засмучаць, але ў хуткім часе вы пераканаецеся ў іх неабходнасці. Набярыцеся цярпення, філасофскае стаўленне да падзей дапаможа пратрымацца на плаву. У выніку тое, што здарыцца, пойдзе вам на карысць - вы зможаце сустрэць сапраўднае каханне.

**ВАДАЛІЎ.** Усё, што характэрна для гэтага тыдня, будзе ўспрымацца з ленасцю. Магчымасці могуць быць выпушчаны з-за элементарнага нежадання штосьці змяняць. А магчымасці тыдня насамрэч патрасуць. І калі жадаеце стартаваць, стартуйце і не глядзіце на акружаючых вас. Калі ўжо зусім няма жадання чым-небудзь сур'ёзна займацца, абавязкова дарабіце старыя справы, якія засталіся ад мінулага года. Рыхтуйце глебу для змен.



**РЫБЫ.** У пачатку тыдня вам будзе важна, як вас ацэньваюць людзі. Таму што менавіта так вы зможаце зразумець, што трэба ў сабе змяніць. Вядома, зусім падладжвацца пад астатніх не варта. Ваша эмацыйнасць на піку ўвесь тыдзень, аднак і рацыяналізм вам не чужы, што дапаможа хутчэй асвоіцца ў сітуацыі. На гэтым тыдні цалкам магчыма змяніць жыццё да лепшага. Адаб'юцца напрацоўкі мінулых месяцаў. Некаторыя рэчы кантраляваць не атрымаецца, ды і ці трэба? У канцы тыдня любоўныя адносіны могуць зрушыцца, варта ледзь-ледзь дапамагчы партнёру, падштурхнуць яго да рашучых дзеянняў.



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

“Вольнае Глыбокае”
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 04 01. 20101года ў 21$^{05}$

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2100 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 53



Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

